РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 41 (7854) Заснавана ў красавіку 1931 года СЕРАДА, 31 мая 2000 г. Цана 25 руб.

## СВЯТА АПОШНЯГА ЗВАНКА

***Як заўсёды, прыходзіць у канцы мая месяца гэты хвалюючы, радасны дзень. Дзень, калі, здаецца, усе кветкі, шчаслівыя ўсмешкі "збіраюцца" ў адным месцы – школе. Штогод пасвяточнаму апранутыя, узнёслыя і ўрачыстыя, спяшаюцца рабяты на свята апошняга званка. Для адных гэты званок будзе яшчэ звінець не адзін раз, а для другіх, выпускнікоў, ён – сапраўды апошні. Як для 324 адзінаццацікласнікаў нашага раёна, якія сёння развітваюцца з роднай школай.***





*Свята апошняга званка ў СШ № 3 адкрыла арганізатар пазакласнай і пазашкольнай работы Р. П. Казлова. Яна павіншавала рабят і настаўнікаў з заканчэннем навучальнага года, пажадала паспяховай здачы выпускнікам экзаменаў, пазнаёміла з ганаровымі гасцямі, што прысутнічалі на свяце, а затым дала слова старшыні райвыканкама М. Р. Барысаву. Міхаіл Рыгоравіч цёплыя словы віншавання з нагоды заканчэння навучальнага года адрасаваў педагагічнаму калектыву школы, выпускнікам. Ён пажадаў хлопцам і дзяўчатам паспяховай здачы экзаменаў, пажадаў знайсці сваё месца ў жыцці. Пасля заканчэння вышэйшых і сярэднеспецыяльных навучальных устаноў многія сённяшнія выпускнікі, безумоўна, вернуцца ў свой раён, дзе заўсёды рады маладым спецыялістам. Для іх плённай працы ствараюцца ўсе ўмовы.*

*На свяце апошняга званка выступілі: дырэктар лясгаса В. А. Цярэшчанка – ад падшэфнай арганізацыі, Н. З. Кірпічэнка – ад імя бацькоў выпускнікоў, З. М. Волкава і Р. П. Герасічкіна – класныя кіраўнікі 11 "Б" і 9 "Б" класаў, вучаніца 11 класа Наташа Кавалёва – ад імя выпускнікоў, першая настаўніца 11 "А" класа В. У. Сусько.*

*Лепшым спартсменам, няштатным аўтаінспектарам былі ўручаны Ганаровыя граматы, кнігі, салодкія падарункі і грашовыя прэміі.*

*І вось пад мелодыю школьнага вальса закружыліся пары выпускнікоў адзінаццатых "А", "Б" і "В" класаў. А затым для іх прагучаў апошні школьны званок.*

***Ул. інф.***

***На здымках: выступае старшыня райвыканкама Міхаіл БАРЫСАЎ; на ўрачыстай лінейцы, прысвечанай святу апошняга званка.***

***Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.***

## Тыдзень адказных работнікаў райвыканкама

24 мая 2000 года адбылося планавае пасяджэнне райвыканкама. Вёў яго старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў. Разгледжана пытанне аб стане і мерах па падрыхтоўцы жыллёва-камунальнай гаспадаркі раёна да работы ў асенне-зімовы перыяд 2000-2001 года. Заслуханы паведамленне намесніка старшыні райвыканкама Мікалая Чэпікава, справаздачы дырэктараў раённага вытворчага аб'яднання ЖКГ Паўла Шаўцова, сельскага ЖКК —Мікалая Мамонава.

Зацверджаны мерапрыемствы гэтых калектываў па падрыхтоўцы да работы ў асенне-зімовых умовах. Іх кіраўнікі, а таксама іншых прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, сельскія Саветы дэпутатаў, органы кіравання абавязаны ажыццявіць канкрэтныя меры, забяспечыць выкананне прынятага райвыканкамам рашэння.

На пасяджэнні райвыканкама абмеркаваны многія важныя пытанні, у тым ліку аб мерах па павышэнню эфектыўнасці інфармацыйнай работы ў раёне, аздараўленню дзяцей і падлеткаў.

М. Р. Барысаў прыняў удзел у штомесячнай вытворчай нарадзе па жывёлагадоўлі, якая праведзена ў райвыканкаме на мінулым тыдні. Былі запрошаны кіраўнікі і зоаветспецыялісты калгасаў, раённых служб, упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання. Прааналізаваны вынікі работы жывёлаводаў гаспадарак раёна за 4 месяцы гэтага года, вызначаны задачы па павелічэнню вытворчасці малака і мяса ў пашавы перыяд.

27 мая на пашыраным пасяджэнні райвыканкама з удзелам кіраўнікоў калгасаў, шэфствуючых і абслугоўваючых сельскую гаспадарку прадпрыемстваў, арганізацый падведзены вынікі раённага спаборніцтва за своечасовае і якаснае правядзенне веснавой сяўбы ў калгасах у бягучым годзе. Калектывы гаспадарак-пераможцаў, іх кіраўнікі, многія перадавыя механізатары ўзнагароджаны адпаведнымі грашовымі прэміямі.

Вызначаны таксама пераможцы сярод шэфскіх прадпрыемстваў і арганізацый. Яны матэрыяльна заахвочаны.

М. Р. Барысаў на гэтым жа пасяджэнні паставіў перад райсельгасхарчам, калгасамі, органамі ўлады, арганізацыямі задачы па правядзенню ўборкі траў і нарыхтоўкі кармоў для жывёлы на будучы стойлавы перыяд. Калектывы прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў абавязаны прыняць актыўны ўдзел у корманарыхтоўцы. Ім даведзены канкрэтныя заданні, вызначаны аб'ёмы гатовай прадукцыі.

М. Р. Барысаў правёў 29 мая аператыўную нараду работнікаў апарату райвыканкама. Сюды былі запрошаны кіраўнікі і спецыялісты райсельгасхарчу, раённых служб, арганізацый. Заслуханы паведамленні намеснікаў старшыні раённага выканаўчага камітэта, кіраўнікоў раённых тэхналагічных груп аб арганізацыі пашавага ўтрымання грамадскай жывёлы ў замацаваных за імі калгасах, вытворчасці і рэалізацыі малака. Яны праінфармавалі таксама аб стане гатоўнасці кормаздабываючай тэхнікі да работы, разгортванні нарыхтоўкі сена, наяўнасці паліва ў гаспадарках.

Старшыня райвыканкама даў указанні прадукцыйна выкарыстоўваць тэхніку на сенажацях, а таксама прымяняць ручную касьбу, уборку на несельскагаспадарчых угоддзях, пойменных лугах.

Вынікі "зялёнага жніва" вырашана перыядычна падводзіць на пасяджэннях райвыканкама, аналізаваць работу кадраў і прымаць неабходныя меры. Гэтак жа будзе аналізавацца і ход пашавага сезону ў жывёлагадоўлі, выкананне задач па нарошчванню прадукцыі.

На нарадзе закраналіся пытанні забеспячэння горада пітной вадой, фінансавання чарнобыльскай праграмы, работы будтрэста № 10 і іншыя.

У той жа дзень М. Р. Барысаў прымаў удзел у рабоце раённай нарады па будаўніцтву, ажыццяўляў рабочыя паездкі па раёну.

На мінулым тыдні старшыня райвыканкама наведаў сярэднюю школу № 3 горада, удзельнічаў у праводзімых мерапрыемствах, звязаных з заканчэннем навучальнага года.

## *Бывай, школа!*

Апошні школьны званок. Свята ўсіх вучняў. Для адных гэта сігнал аб тым, што закончыўся чарговы навучальны год, а для другіх – кліч у новае жыццё.

На ўрачыстасцях у гонар развітання са школай у Шарэйках, здаецца, было ўсё, як кожны год у гэты час. Гучаў Гімн Рэспублікі Беларусь, быў узняты Сцяг, выпускнікам дзесяцікласнікі павязалі традыцыйныя стужкі "Выпускнік-2000". Толькі па-асабліваму гучалі словы дырэктара У. Я. Папкова, класных кіраўнікоў В. М. Гаўруновай і М. І. Маскалёва, першай настаўніцы выпускнікоў Т. Ф. Бабровай, бацькоў Т. С. Жарыкавай, Р. В. Малашанка, С. В. Цудзікавай і іншых. Кожнаму хацелася ў гэты дзень сказаць самыя цёплыя словы выпускнікам, адрасаваць ім шчырыя пажаданні на добрую дарогу ў новае жыццё, удачы ў здачы не толькі выпускных экзаменаў, а і ўступных у навучальных установах.

Свае віншаванні і пажаданні выказалі выпускнікам вучні малодшых і 10 класаў у вершаванай форме.

Словы ўдзячнасці з вуснаў выпускнікоў на гэтай урачыстасці прагучалі настаўнікам.

Вядучыя свята вучні дзесятага класа Ліля Сідарэнка і Наташа Капітуліна пажадалі рабятам малодшых класаў добрага адпачынку ў час летніх канікулаў, а выпускнікам – удачы ў выбары жыццёвага шляху.

Права даць апошні званок атрымалі вучань падрыхтоўчага класа Вадзім Мяжкоў і адзінаццацікласніца Алена Жарыкава.

**ПАПРАЎКА.** У № 40 за 27 мая г.г. райгазеты ў інфармацыі "Традыцыйная "Зарніца" дапушчана недакладнасць. Варта чытаць: "У Фёдараўскім гаі прайшла ваенна-спартыўная гульня "Зарніца". І далей па тэксту.

Таксама варта чытаць: "...пераможцамі сталі вучні СШ № 2, на другім месцы -- СШ № 3, на трэцім -- СШ № 1".

Рэдакцыя просіць прабачэння ў чытачоў газеты.

НАРЫХТОЎКА КАРМОЎ

## СПАДЗЯЮЦЦА НА ДАПАМОГУ ШЭФАЎ

Першае, што кідаецца ў вочы на машынна-трактарным двары калгаса "Ленінскі шлях", — беспарадак.

— Ведаеце, — апраўдваецца галоўны інжынер Аляксандр Чаркасаў, — лішніх людзей у нас няма, а рамонту многа. Толькі што выйшаў з наладкі адзін трактар, як на яго месца паставілі другі.

— Адпрацаваныя шыны валяюцца...

— Дык на іх толькі што рухавікі згружалі.

Старшыня калгаса Мікалай Таўпека быў больш аптымістычны:

— Умацуем кадрамі інжынерную службу і належны парадак будзе наведзены.

Не скажаш, што ў калгасе не ведаюць простай сялянскай ісціны: будуць кармы – будуць малако і мяса. Ведаць ведаюць, але, як гаворыцца ў вядомай байцы, сілы слабыя.

— З пастаянных кадраў, — тлумачыць Аляксандр Чаркасаў, — толькі інжынер, зваршчык, каваль і два слесары – бацька і сын Міхаіл і Уладзімір Мадудзіны.

Не дзіўна, што стан гатоўнасці кормаздабываючай тэхнікі знаходзіцца на ўзроўні, нібы размова адбывалася ў зімовыя месяцы. Да ўсяго трэба дадаць, што тэхніка састарэлая і, каб паставіць яе ў строй, патрабуецца больш сродкаў і часу. Дастаткова сказаць, што трактару Т-150 12 гадоў. Ёсць і ўзроставы рэкардсмен МТЗ, які эксплуатуецца 18 гадоў. Прычым, паставілі на яго аднаўлены рухавік і трактар яшчэ паслужыць.

Гэтак жа абстаяць справы і са збожжаўборачнай тэхнікай. Вось чаму машынны двор нагадвае вялікую рамонтную пляцоўку. Калі гаварыць канкрэтна пра кормаўборачныя машыны, то гатовы выйсці на сенажаці адзін КСК-100, другі даводзяць да ладу ў райаграпрамтэхніцы. Апрабаваны дзве ротарныя касілкі. У адной з іх трэба перабраць падшыпнікі. Двое грабляў у рабочым стане, а вось на варушылцы сена трэба замяніць некаторыя дэталі.

Побач з памяшканнем майстэрні корпаўся каля прэс-падборшчыка Сяргей Панцялееў. З двух, адпрацаваўшых ўжо свае тэрміны прэсаў, ён спрабуе зрабіць адзін.

— Без новага прэса не абысціся, — робіць заключэнне галоўны інжынер.

*(Працяг на 2 стар.)*

# З надзеяй на новыя сустрэчы



Нядаўна наш раён з дружалюбным візітам наведала дэлегацыя з нямецкага горада Дытцэнбаха.

Дэлегацыю прыняў старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў. Падчас сустрэчы ішла гаворка не толькі аб тым, што зроблена для ўмацавання супрацоўніцтва, а і аб тым, што яшчэ карыснае змогуць зрабіць для жыхароў нашага горада нямецкія сябры.

Вядома, што ў горадзе не так багата месцаў для культурнага адпачынку. На сустрэчы ішло абмеркаванне пытання аб будаўніцтве тэнніснага корта. Распрацавана неабходная дакументацыя. Цяпер справа за фінансаваннем. І нямецкія госці абяцалі выдзеліць сродкі на гэтыя мэты.

М. Р. Барысаў шчыра падзякаваў гасцям за іх клопат пра нашых дзяцей.

Потым нямецкая дэлегацыя наведала СШ № 4 горада. Гасцей прыемна ўразіла тая акалічнасць, што іх сустракалі, праводзілі гутарку каля выставы рукадзелля і вялі канцэртную праграму вучні на нямецкай мове. А ў адным з класаў школы адбыўся свайго роду экзамен. Экзаменавалі чатырох выпускніц з СШ № 1 і СШ № 4, якія выказалі жаданне вучыцца ў інстытуце замежных моў. Сябры з Дытцэнбаха прапанавалі матэрыяльную дапамогу пераможцы – згадзіліся аплачваць яе вучобу ў вышэйшай установе.

Камісія, у склад якой уваходзілі Дортэ Зідэнтопф, Пітэр Грым, выкладчыца інстытута замежных моў г. Мінска Аляксандра Чашко, прадстаўнікі раённага аддзела адукацыі, а таксама студэнт другога курса інстытута замежных моў Раман Плавінскі, дала дзяўчатам аднолькавы шанц паказаць свае здольнасці. У выніку лепшыя веды аказаліся ў вучаніцы СШ № 1 горада Веранікі Мартыненка.

Дортэ Зідэнтопф пажадала дзяўчатам удачы ў паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, выказала ўпэўненасць у тым, што здаваць экзамены па нямецкай мове ім будзе не так складана.

Адбылося знаёмства са школай, педагагічным калектывам, вучнямі. Дырэктар навучальнай установы Тамара Глушакова паведаміла пра напрамкі работы педагагічнага калектыву. Госці наведалі майстэрню, дзе стаяць вязальныя машыны, падараваныя імі рабятам. З задавальненнем разглядалі яны рэчы, звязаныя рукамі вучняў.

У аддзеле сацыяльнай абароны райвыканкама госці цікавіліся колькасцю пенсіянераў, людзей, якія атрымліваюць сацыяльную дапамогу. Яны задавалі пытанні наконт адзінокіх састарэлых, ахвяр нямецкіх канцлагераў і інш.

Загадчык аддзела Мікалай Платонаў адказваў на ўсе цікавячыя пытанні. Ён расказаў аб надомным абслугоўванні пажылых людзей, падзякаваў гасцям за 8 веласіпедаў, якія былі дасланы на адрас аддзела сацыяльнай абароны. Заўважыў, што гэтай тэхнікай будуць карыстацца работнікі, якія абслугоўваюць састарэлых дома.

Наведваючы дзіцячыя садкі ў Тупічыне, Вялікай Крапіўні, Муравіллі, госці цікавіліся выкарыстаннем той гуманітарнай дапамогі, якая паступае з Германіі. Яны былі прыемна ўражаны добрым афармленнем груп, адкрыццём пакою эстэтычнага выхавання ў Вялікакрапівенскай дашкольнай установе. Нямецкія сябры выказалі жаданне ўзяць на сябе бацькоўскую плату за знаходжанне дзяцей у Муравільскім садку.

У школе-інтэрнаце для дзяцей-сірот іх цікавілі таксама пытанні выкарыстання гуманітарнай дапамогі, занятасці дзяцей і іх працоўнае выхаванне. З гэтай мэтай госці наведалі майстэрні, знаёміліся з іх насычанасцю інструментамі, паабяцалі вывучыць абстаноўку і распрацаваць праект супрацоўніцтва са школай-інтэрнатам.

У сярэдніх школах № 2, № 4 і Машаўской нямецкія сябры таксама сустракаліся з рабятамі і іх бацькамі, цікавіліся захапленнем вучняў, каб больш змястоўна арганізаваць іх адпачынак у час знаходжання ў Дытцэнбаху. Рабяты падрыхтавалі для гасцей некалькі музычных нумароў.

На жаль, па прычыне насычанасці праграмы госці не паспелі пабыць у дзіцячых садках вёсак Гаўрыленка і Новыя Саматэвічы. Яны пакінулі для іх невялікія падарункі. Такія ж уручылі і ў тых садках, якія наведалі.

За кароткі час знаходжання ў нашым раёне нямецкія сябры наведалі сваіх знаёмых, з якімі падтрымліваюць сувязі. Цяжкімі былі хвіліны развітання. Будзем жыць надзеяй на новыя сустрэчы!

**Наталля КАВАЛЁВА.**

**На здымках: у час прыёму старшынёй райвыканкама Міхаілам БАРЫСАВЫМ нямецкай дэлегацыі; у майстэрні СШ № 4.**

**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**



**У ПРАФСАЮЗНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯХ**

# ПАД ЗНАКАМ УЗАЕМАДЗЕЯННЯ

***Заключэнне пагаднення стала ўжо адной з галоўных форм сацыяльнага партнёрства паміж адміністрацыяй і прафсаюзным камітэтам Беларускага цэментнага завода. Практычна ўсе прынятыя ў калектыве рашэнні, якія закранаюць сацыяльна-эканамічныя інтарэсы работнікаў, з'яўляюцца вынікам іх сумеснай выпрацоўкі. Мэта гэтай публікацыі паказаць, якім чынам на практыцы ажыццяўляюцца пункты важнага для кожнага работніка калектыўнага дакумента, асноўная мэта якога – забеспячэнне ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця, занятасці работнікаў, узроўню іх аплаты працы, эфектыўнай работы завода, бяспечных умоў працы.***

**ЗАВОД І ЗАВАДЧАНЕ**

Беларускі цэментны завод – самае буйное прамысловае прадпрыемства ў раёне. Па ўзроўню занятага тут насельніцтва яго можна аднесці да горадаўтвараючага. Больш паловы насельніцтва Касцюковіч тым або іншым чынам звязана з дзейнасцю завода. Непасрэдна на прадпрыемстве і ў структурных падраздзяленнях ("Цэментгандаль" і ўпраўленне "Цэмбудрамонт") працуюць 1493 чалавекі. Многія спецыялісты былі запрошаны з Казахстана, Узбекістана, Расіі і Украіны.

Першая чарга БЦЗ уведзена ў кастрычніку 1996 года. Упершыню ў сусветнай практыцы прыменен "сухі" спосаб вытворчасці цэменту з высокавільготнай сыравіны. Новая тэхналогія дазваляе эканоміць штогод 50 тысяч тон умоўнага паліва. За перыяд работы, з дня ўводу магутнасці, прадукцыйнасць тэхналагічнай лініі пацверджана. Сушыльна-памольны агрэгат надзейна забяспечвае атрыманне сумесі сыравіны па паказчыках вільготнасці і дысперснасці. Клінкер на аснове прыгатаванай сумесі мае высокую актыўнасць, што дазваляе атрымліваць цэмент маркі 550-600. У ліпені 1999 года завод прыступіў да выпуску высокамарачнага сепарыраванага цэменту М500.

Можна і далей прыводзіць факты, якія сведчаць, што калектыў паспяхова асвойвае вытворчыя магутнасці, нарошчвае выпуск цэменту, адладжвае тэхналогію вытворчасці. З кожным годам завод усё больш заваёўвае рынак збыту не толькі ў рэспубліцы, а і за яе межамі. За мінулы год ад спажыўцоў не паступіла ніводнай рэкламацыі на высокамарачны цэмент. У 1999 годзе на прадпрыемстве было распачата будаўніцтва ўпаковачнай лініі на 225 тысяч тон цэменту ў год. Пастаўка тэхналагічнага абсталявання здзяйсняецца фірмай "Мелерс" (Германія), якая выйграла конкурсны тэндар. Увод у дзеянне тэхналагічнай лініі дазволіць арганізаваць продаж цэменту на экспарт, забяспечыць унутраны рынак рэспублікі, палепшыць вынікі гаспадарчай дзейнасці, умацаваць фінансавае становішча.

Завадчане добра разумеюць, асабліва запрошаныя спецыялісты, што яны жывуць у складаны эканамічны час, аднак, нягледзячы на ўсе фінансавыя цяжкасці, працоўным калектывам здзейснены рад мерапрыемстваў па паскарэнню асваення вытворчых магутнасцей. Завод працуе з выкарыстаннем прыроднага газу. Была праведзена мадэрнізацыя топак сыравінных млыноў "Аэрафол", праведзены работы па перамяшчэнню газаходаў. Зменена тэхналогія збору пылу з асаджальных цыклонаў сыравіннага цэха ў сувязі з тым, што праектнае абсталяванне не забяспечвала стабільнасць у рабоце. Праведзена рэканструкцыя аспірацыйнай сістэмы, якая дазволіла значна знізіць запыленасць вытворчых памяшканняў. Устаноўлены новыя і больш сучасныя лічыльнікі па газу і электраэнергіі, што дае магчымасць весці дакладны ўлік і кантроль за расходаваннем паліўна-энергетычных рэсурсаў. У адпаведнасці з мерапрыемствамі вядзецца распрацоўка праекта ўкаранення тэхналогіі прыгатавання цэмента-сыравіннай мукі ў асяродку адыходзячых газаў газатурбіннай установкі. З укараненнем гэтага праекта, па папярэдніх разліках, эканомія складзе 70 тысяч тон умоўнага паліва ў год.

**ПРАЦОЎНЫЯ АДНОСІНЫ**

Гаворачы аб пазітыўных напрацоўках, неабходна адзначыць такі факт. Сумеснымі намаганнямі заводаўпраўлення і прафсаюза ўдалося дабіцца таго, што калектыўнае пагадненне садзейнічае рэгуляванню самых актуальных пытанняў. У адпаведнасці з ім праводзяцца прэміраванне лепшых калектываў падраздзяленняў, ахова працы, матэрыяльная падтрымка і заахвочванне, выпрацоўваюцца меры сацыяльнай абароны.

Калі гаварыць аб прававым забеспячэнні працоўных адносін, то трэба заўважыць, што ёсць станоўчыя змены па захаванню норм заканадаўства. Разглядаліся абгрунтаваныя патрабаванні, крытычныя заўвагі і прапановы, якія датычаць умоў працы, быту, аховы працы. Разглядалася хадайніцтва прафкама аб прыцягненні да адказнасці пасадавых асоб, парушаючых заканадаўства, не выконваючых абавязацельстваў па дагавору, замінаючых выкананню статутных функцый прафкама. Як станоўчую, можна прывесці работу прафсаюзных камітэтаў цэхаў сыравіны, аспірацыі і іншых. У той жа час прафкамы цэхаў памол, чыгуначны адчувальнай работы з людзьмі не праводзяць, за выключэннем атрымання матэрыяльнай дапамогі.

Адным з крытэрыяў ацэнкі аховы працы з'яўляецца вытворчы траўматызм і яго прафілактыка. Амаль усе няшчасныя выпадкі ў 1998 і 1999 гадах былі звязаны з ужываннем работнікамі спіртных напояў. Спыт з п'яніц і прагульшчыкаў адміністрацыяй і прафкамам, згодна з працоўным заканадаўствам і калектыўным пагадненнем, быў узмоцнены. Калі ў 1998 годзе было сем няшчасных выпадкаў, то ў мінулым – адзін. Аднак, трэба прызнаць той факт, што прафкам паслабіў работу ў гэтым напрамку. Створаная камісія па ахове працы ў апошнім квартале 1999 года і пачатку сёлетняга ад сваіх абавязкаў самаўхілілася.

Па-ранейшаму адна з самых вострых — жыллёвая праблема. Па стану на 1 красавіка гг. у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў стаяла 272 чалавекі. Як вядома, у снежні 1999 года быў здадзены жылы дом МЖБК. Адміністрацыяй і асабіста дырэктарам завода Уладзімірам Кісялёвым праведзена вялікая работа па стварэнню МЖБК-2. Плануецца будаўніцтва 107-кватэрнага жылога дома № 24 у мікраёне "Маладзёжны". Выраблена адпаведная дакументацыя. У цяперашні час вырашаецца пытанне аб фінансаванні аб'екта.

**АЗДАРАЎЛЕННЕ І КУЛЬТУРНА-МАСАВАЯ РАБОТА**

Прафкаму практычна ўдалося забяспечыць ахоп аздараўленнем работнікаў і іх дзяцей на ўзроўні папярэдніх гадоў. У 1998 годзе цераз раённую камісію па аздараўленню было выдзелена 29 санаторных пуцёвак, у мінулым – 35, 75 дзяцей адпачылі ў аздараўленчых лагерах.

На ўзроўні вядзецца спартыўная работа.Прадпрыемства практычна можа выставіць каманды і прыняць удзел у любых відах спаборніцтваў, якія праводзяцца ў раёне. Горш абстаяць справы з развіццём мастацкай самадзейнасці. Работу гэту прыйшлося пачынаць з нуля ў лютым бягучага года. Аднак вынікі ўжо ёсць.

У красавіку гг. на цэментным заводзе прайшла справаздачна-выбарная прафсаюзная канферэнцыя. Абраны новы прафкам, які зноў даверана ўзначальваць Аляксандру Дуваліну. Дэлегатамі прынята новае пагадненне паміж адміністрацыяй завода і прафкамам на тэрмін да сакавіка 2003 года.

**Віктар БОНДАРАЎ.**

# СПАДЗЯЮЦЦА НА ДАПАМОГУ ШЭФАЎ

*(Заканчэнне. Пачатак на 1 стар.)*

Летась не ладзілася ў гаспадарцы з тэхнікай у пачатку сезону нарыхтоўкі кармоў. Тады кіраўнікі двух суседніх калгасаў "Ленінскі шлях" і "Забычанне" аб'ядналі кормаздабываючыя машыны ў адзін атрад і агульнымі намаганнямі сянаж і сілас нарыхтавалі. Сёлета такое аб'яднанне не прадбачыцца па дзвюх прычынах. Па-першае, не маглі падзяліць кармы згодна ўкладу з агульнанарыхтаванай траншэі, па-другое, тэхніка не падрыхтавана ні ў той, ні ў другой гаспадарцы.

Пры правядзенні веснавой сяўбы ў "Ленінскім шляху" не абышліся без дапамогі шэфаў з трэста № 10 "Цэментабуд". На "Кіраўцах" з чызелямі і плугамі ўвесь перыяд сяўбы шчыравалі на палях Леанід Баранаў і Сяргей Шышоў. Відаць, не абысціся калгасу без дапамогі гарадскіх арганізацый не толькі ў нарыхтоўцы кармоў, а і ва ўборцы збожжавых.

Дарэмна кажуць, што пасля сяўбы ў механізатараў наступае перадышка. Яе, аказваецца, проста няма па прычыне недахопаў механізатараў. У той дзень на пашкоджаных стыхіяй палях вёўся падсеў кукурузы. Між іншым, пасевы гэтай культуры мяркуюць расшырыць на 30 гектараў, што дасць магчымасць нарыхтаваць больш сакавітага корму. Механізатары Уладзімір Бяляеў і Леанід Шуніబораў былі заняты падкормкай пашаў мінеральнымі ўгнаеннямі. Праполку буракоў на трактары ў счэпе з культыватарам вёў Уладзімір Барысенка. Ваду для паення жывёлы на пашу дастаўляў Мікалай Нахаенка. На яго абслугоўванні тры фермы.

Як бачна, механізатары заняты на розных работах, а два слесары хіба многа зробяць? Вось і стаяць сіратліва камбайны, да якіх нават ніхто не падыходзіць. Праўда, два камбайны – Віктара Серады і Уладзіміра Барысенкі – ў гатоўнасці, іншыя пакуль канкрэтных гаспадароў не маюць. Ужо цяпер вядома, што з пяці наяўных камбайнаў будуць працаваць толькі чатыры. Зноў прыйдзецца прасіць дапамогі.

— Ва ўраджайны год я адзін намалочваў 400 тон збожжа, тое, што летась мы намалацілі гуртам, — падкрэсліў важнасць падрыхтоўкі да важнага і адказнага перыяду камбайнер Віктар Серада.

Калі ў калгасе "Ленінскі шлях" цепліцца нейкая надзея выправіць становішча і вывесці тэхніку на сенажаці, то ў "Забычанні" нават не бачаць выйсця са становішча. Не даведзен да ладу нават адзіны КСК-100 Віктара Азарава. Прэспадборшчыкі стаяць без колаў, няма гумы, якую, дарэчы, не куплялі ўжо 12 гадоў.

— Былі б на рахунку грошы, — разважае старшыня калгаса Рыгор Чэпікаў, — асноўныя рамонтныя работы можна было правесці і ў зімовы час.

Сродкаў не хапае не толькі ў "Забычанні", але ж выйсце знаходзяць. А тут поўнасцю апусцілі рукі.

— Працаваць, — заяўляюць механізатары, — няма аніякага стымулу. Зарплату не выдавалі яшчэ за студзень.

Няма матэрыяльнай зацікаўленасці – няма і справы. Можна было б паставіць у строй самаходную касілку Е-281, ды для яе спрактыкаванага механізатара не падабралі.

На мінулую зімоўку для дойнага статку (287 кароў) былі нарыхтаваны 400 тон сена, 1,5 тысячы тон сенажу, сілас. Цяпер пагалоўе паменшана да 200, а значыць, менш трэба нарыхтоўваць і кармоў. Стаўка робіцца на пасевы кукурузы, плошча пад якую расшырана да 110 гектараў. Нават гэтыя аб'ёмы работ сіламі калгаса будзе выканаць складана. Выйсце адно: прасіць дапамогі ў шэфаў па тэхніцы і кадрах.

**Віктар БОНДАРАЎ.**

5 ЧЭРВЕНЯ – СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ

# Важная падзея экалагічнага календара

Сусветны дзень навакольнага асяроддзя, які разглядаецца многімі як самая важная падзея экалагічнага календара, святкуецца кожны год у больш як 100 краінах. Гэты агляд выкарыстоўваецца, каб прыцягнуць увагу да некаторых шляхоў, у якіх чалавецтва рызыкуе сваім уласным домам, каб узмацніць тэрміновую патрэбнасць у змяненні адносін да прыроды. Выпадак выкарыстоўваецца таксама для натхнення палітычных і грамадскіх дзеянняў. Урады краін, прыватныя асобы, няўрадавыя арганізацыі, грамадскія і маладзёжныя аб'яднанні арганізоўваюць шматлікія дзеянні па паляпшэнню навакольнага асяроддзя, уключаючы ачышчальныя кампаніі на сваіх падведамасных тэрыторыях, асабістых падворках. Сёлета тэмай Сусветнага дня навакольнага асяроддзя з'яўляецца: "2000-годдзе навакольнага асяроддзя. Час дзейнічаць!"

Экалагічная абстаноўка кожнага рэгіёна з'яўляецца састаўной часткай экалагічнай абстаноўкі нашай планеты Зямля.

Неабходна адзначыць, што экалагічная сітуацыя ў нашым раёне застаецца складанай. Прычына не толькі ў забруджванні значнай тэрыторыі раёна радыенуклідамі, а і нізкай культуры ўсіх вытворчых працэсаў, як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы.

Тэрыторыі такіх прадпрыемстваў і арганізацый, як ААТ "Касцюковіцкі малаказавод", сельскі жыллёва-камунальны камбінат, РВА ЖКГ захламлены бытавымі адыходамі, мазутам, металаломам. Раённай інспекцыяй прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя былі прыцягнуты пасадавыя асобы гэтых арганізацый да адміністрацыйнай адказнасці за санітарны стан.

Не ва ўсіх калгасах наведзены агульны санітарны парадак на прыфермскіх тэрыторыях, машынных дварах, складскіх памяшканнях. Асобныя кіраўнікі звыкліся з такім становішчам спраў у сваіх гаспадарках, спасылаючыся на слабую эканоміку, адсутнасць неабходнай тэхнікі і гаруча-змазачных матэрыялаў. Яны папярэджаны, што наводзіць належны санітарны парадак давядзецца ўсім. Хто з гэтага не жадае добраахвотна, будзе рабіць прымусова.

Метады і падыходы, ды і законы нашай дзяржавы, дазваляюць прывіць любоў да чысціні нашага агульнага дома. За 5 месяцаў гг. райінспекцыяй за парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства прыцягнуты 42 парушальнікі, гэта столькі, колькі за ўвесь мінулы год. Меры будуць прымацца жорсткія без усяляких спасылак і адгаворак. Нават там, дзе не патрэбна ніякая тэхніка, грашовыя сродкі, некаторыя кіраўнікі парушаюць заканадаўства, спрабуюць ігнараваць выкананне выдадзеных прадпісанняў. Другі год не афармляюць дазвол на спецводакарыстанне старшыні калгасаў "Краншстат" А. Нікалаенка, імя Калініна Л. Пратасава, "Праўда" В. Арэхаў, "Новае жыццё" А. Амельчанка, "Смолькі" У. Барысенка. На названых кіраўнікоў накладзены штрафы ў памеры 3-х мінімальных заработных плат. Калі яны не выканаюць і ў другі раз прадпісанні, або не аформяць дазвол на спецводакарыстанне, то будзе накладзен штраф у памеры 25 мінімальных заработных плат кожнаму. Такі ж парадак і меры ўздзеяння будуць вызначаны для ўсіх парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, ад кіраўніка да прыватнай асобы.

Давайце ўсе разам будзем наводзіць парадак у нашым агульным доме!

**Фёдар ШУНЬКІН,**
**начальнік раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**

З ЛЮБОЎЮ ДА ПРЫРОДЫ

## Ландышы

*Шматлікімі фарбамі, разнагалосымі песнямі, гукамі, прыемным водарам напоўнен лес. Заканчваецца апошні месяц вясны – май. Здаецца ўсё лепшае, чым багата прырода, яна падрыхтавала да гэтага перыяду. У народзе яго называюць "прадлецце". У гэты час ластаўкі-касаткі пачынаюць дзень, а салаўі яго заканчваюць.*

*І вось наступіў час цвіцення ландышаў. Перыяд яго кароткі, асабліва пры цёплым надвор'і. Нейкія лічаныя дні.*

*Ва ўрочышчы "Салодкае" ёсць астравок сасновага лесу. Ён мала даступны. Тут працякае Чорны ручай, прыток ракі Іпуць.*

*Іду на сустрэчу з ландышамі. Адчуваю нейкую лёгкасць ва ўсім целе. Зараней ведаю, што ў лесе сустрэну нешта ўрачыстае, незвычайнае. І сапраўды, перад веліччу і прыгажосцю прыроды знікаюць усе клопаты і хваляванні. У лесе ўжо белымі астраўкамі праглядваецца чаромха. Ад яе далёка разносіцца мядовы пах. Чутны паўсюдна салаўіны пошчак. Асабліва шчыруе салавей на адзінока растучай яблыні. Ужо які год ён тут уладкоўвае сваё гняздо. Яблыня ўся яшчэ ў белым убранні, толькі зрэдку паспелі зляцець пялёсткі.*

*У траве зіхацяць пялёсткі фіялкі душыстай. Трапляецца вечная спадарожніца ландыша – ястрабінка хваліста́я.*

*Сосны... Высока вынеслі яны сваю шапкападобную крону. Пад полагам сасноў — ядловец, рабіна, крушына, зрэдку — кусты арэшніку, а ніжэй – суцэльная плантацыя ландышаў. На тоненькіх сцяблінках развешаны малюсенькія фарфоравыя званочкі. Патаемным, чароўным святлом азораны гэтыя званочкі знутры. На іх, на гэтую далікатную і кранаючую прыгажосць, глядзіш з асаблівым радасным хваляваннем. Ёсць у сціплых кветках нешта незвычайна прыцягальнае. Халаднаватыя дзябёлыя лісты беражліва захоўваюць у сваіх атласных далонях мініяцюрныя званочкі.*

*Ландышы натхнялі многіх паэтаў, і мне ўспомнілася прыўнанне аднаго з іх:*

*О, ландыш! Отчего ты радуешь так взоры!*
*Другие есть цветы, раскошней и пышней,*
*И ярче краски и веселей узоры,*
*А прелести в них нет таинственной твоей.*

*Іду з лесу, несучы з сабой прыгажосць і водар ландышаў, урачыстую песню салаўя. Так і хочацца звярнуцца да ўсіх: не кранайце, не рвіце ландышаў! Без гэтай прыгажосці цямней і журботней стане ў лесе.*

***Міхась ШАВАНДА,***
***майстар лесу.***




## Зачырванеюць рабіны

Неяк, гуляючы ў выхадны дзень у Бараўцы, мне сустрэлася група школьнікаў. У кожнага з іх у руках было па аднаму, а то і па два дрэўцы. Кінулася ў вочы, што сярод іх присутнічаў жвавы, невысокі мужчына, які хутка гаварыў, каму куды ісці і дзе садзіць саджанцы. Як потым высветлілася з размовы, гэта быў ляснік Касцюковіцкага лясніцтва Алег Іванавіч Серакоў.

— Ці шмат ужо пасадзілі? — пацікавіўся, гледзячы на руплівую працу вучняў.

— Шмат! — проста адказаў ляснічы і тут жа пакорпаўся ў сваіх паперах.

— Вучні СШ № 2 пасадзілі 980 саджанцаў, а СШ № 4 – 1088.

Добра папрацавалі рабяты школы для дзяцей-сірот. Імі вакол Бараўца пасаджана 1132 дрэўцы, каля чыгункі – 812 елак. На завулку Юбілейны выхаванцы ўбралі звалку смецця і пасадзілі там 120 саджанцаў. Тое ж самае зрабілі і па вуліцы Куляшова, дзе пасадзілі 137 саджанцаў рабіны, — паведаміў ён.

— Чаму менавіта рабіны?

— Таму што яна лепш за ўсіх дрэў прымаецца, менш патрабавальная да глебы, — заўважыў Алег Іванавіч. — Летам будзе працаваць пры школе № 4 лагер, які будуць наведваць члены школьнага лясніцтва.

Ад школы для дзяцей-сірот кіраўніком будзе, як я даведаўся, Алег Іванавіч, а дапамагаць яму будуць Антаніна Іванаўна Максімава– ад СШ № 4, ад школы № 2 – Алена Васільеўна Марчанка.

Дзецям выдадуць форму. Юныя лесаводы будуць сачыць за тым, каб у Бараўцы не раскладвалі вогнішчаў, каб не ламалі дрэўцы.

Як паведаміў А. Серакоў, на тэрыторыі лесапасадкі пабудавалі два кааператыўных гаражы. За імі — кучы смецця, якія растуць з кожным днём. Старшыні кааператываў Шрамаў і Жукаў нічога не робяць па ачыстцы тэрыторыі.

Слухаючы лесніка, я адчуў, што ў гэтага чалавека душа баліць, калі бачыць, як засмечваецца навакольнае асяроддзе. Ён робіць усё ад яго залежачае, каб дом, у якім мы ўсе жывём, стаў больш зялёным, больш прыгожым.

**Уладзімір КАПАЕЎ.**

## День Земли

В Белынковичской средней школе прошла экологическая акция "День Земли", в которой приняли участие как школьники, так и учителя. Такие акции стали у нас традицией и проводятся ежегодно. Задействованы были все, "от мала до велика".

Парадная сторона школы, площадка, на которой проводятся торжественные линейки, была обсажена сиренью. Разбиты новые цветочные клумбы. Вдоль дороги, по которой ходят в школу, посажена рябина.

Кроме этого, было собрано много макулатуры и металлолома, очищались всевозможные свалки. Члены школьного лесничества проводили очистку леса, собирали шишки, почки сосны и березы, соплодия ольхи. И плюс ко всему этому для младших классов прошел конкурс "Чудеса природы".

Я считаю, что каждая такая акция, несомненно, приносит пользу. В понимании Толстого: "Природа – это источник жизни и обновления людей. Слияние человека с ней укрепляет его нравственные и духовные силы". Я полностью согласна с ним, ведь мы действительно зависим от природы, а чтобы она влияла на нас положительно, нам нужно почаще обращать внимание на окружающий нас мир, проводить различные экологические акции. И я верю, что в результате совместных усилий, мы обязательно сделаем Землю такой, какой бы хотели видеть её наши потомки, мир – полный гармонии и счастья.

**Ольга ТРЕЗКОВА,**
**ученица 10 класса**
**Белынковичской СШ.**

ГЭТА ЦІКАВА

## "Падвешваецца" ўніз спіною...

Гэта невялікая, меншая за вераб'я, птушка лічыцца адной з самых любімых у сяброў роднай прыроды. І яе можна рэкамендаваць пачынаючаму аматару.

Чыжык выглядае сціпла: зеленаватае пер'е ў самца аздоблена чорнай шапачкай на галаве і жоўтымі палосамі на крылах. Маладняк і самкі шэравата-зялёныя. Галоўнае, чым прываблівае чыжык пры першым знаёмстве, – гэта жвавасць. У пошуках насення ён "падвешваецца" ўніз спіною да тонкай галінкі, альбо ў такім жа становішчы дследуе верх клеткі. Абжыўшыся ў хаце, чыжы зусім страчваюць імкненне да волі. Каб добра прыручыць чыжа, неабходна знайсці дарогу да яго "сэрца" пры дапамозе любімых ласункаў: адны птушкі аддаюць перавагу ачышчаным семкам сланечніку, другія – канопліам, трэція – кедравым альбо лясным арэхам.

Песенка чыжа – нямоцнае меладычнае шчабятанне. Можа пераймаць каленцы сініц, шчыглоў, жаваранкаў.

У вялікіх садках і вальерах мірна ўжываецца з іншымі птушкамі, хаця трапляюцца і сварлівыя. Парачка чыжоў у агульнай клетцы вялікага памеру трымаецца нядрэнна. Яны нават размнажаюцца ў хатніх умовах, для чаго неабходна памясціць у клетцы гняздо-кошычак, замаскіраваўшы яго яловымі галінкамі.

Аматары пеўчых птушак кормяць чыжоў зерневай сумессю, аснова якой – проса і аўсяныя крупы з дабаўленнем насення хвойных, даўленага сланечніку, бітых кедравых арэшкаў, насення бярозы, вольхі, дзьмухаўца, лебяды, падарожніка, крапівы і абмежаванай колькасці каноплі.

Птушкі таксама маюць патрэбу ў зеляніне. Любяць цёртую моркву, яблыкі (мякаць і зярняткі). Некаторыя асобіны ахвотна ядуць свежыя мурашыныя кукалкі, асабліва карысныя падчас лінькі і незаменныя, калі выкормліваюцца птушаняты.

Чыжы вельмі любяць купацца. Часам намакаюць так, што не могуць лятаць.

**Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
**краязнавец.**
**г. Віцебск.**



***Дружная сямейка.***
***Фотаэцюд Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.***

## 1 чэрвеня – Міжнародны дзень абароны дзяцей



*Расці, малыш!*
***Фотаэцюд Міхаіла БЯЛЯЎЦАВА.***

*Буду лётчыкам!*
***Фотаэцюд Аляксандра ТАЛКАЧОВА.***

# Абитуриент-2000

*Администрация Белорусского цементного завода приглашает выпускников школ поступать в 2000 году в учебные заведения Республики Беларусь по целевому направлению и договору, согласно контрольных цифр приема, утвержденных Министерством образования и положения о целевой подготовке специалистов, утвержденного Постановлением Совета Министров Республики Беларусь от 28.03.2000 года № 406:*

| Наименование учебного заведения | Шифр и наименование специальности |
|---|---|
| **ПО ЦЕЛЕВОМУ ДОГОВОРУ И НАПРАВЛЕНИЮ** | |
| **БЕЛОРУССКАЯ ГОСУДАРСТВЕННАЯ ПОЛИТЕХНИЧЕСКАЯ АКАДЕМИЯ** | Т.01.01. Программное обеспечение информационных технологий Т.01.01. Электроэнергетика Т.11.02. Автоматизированный электропривод Т.11.03. Автоматизация технологических процессов и производства Т.13.01. Метрология, стандартизация и сертификация Т.20.02. Разработка полезных ископаемых |
| **МОГИЛЕВСКИЙ ГОСУДАРСТВЕННЫЙ ТЕХНИЧЕСКИЙ УНИВЕРСИТЕТ** | Т.11.02. Автоматизированный электропривод Т.06.01. Приборостроение |
| **БЕЛОРУССКИЙ ГОСУДАРСТВЕННЫЙ УНИВЕРСИТЕТ ТРАНСПОРТА Г. ГОМЕЛЬ** | Т.04.03. Организация движения и управление на железнодорожном транспорте |
| **БЕЛОРУССКИЙ ГОСУДАРСТВЕННЫЙ ТЕХНОЛОГИЧЕСКИЙ УНИВЕРСИТЕТ Г. МИНСК** | Т.05.03. Машины и аппараты химических производств и предприятий строительных материалов Т. 11.03 Автоматизация технологических процессов предприятий стройматериалов Т.15.01. Химическая технология производства и переработки неорганических материалов |
| **БЕЛОРУССКИЙ ТЕХНИКУМ ПРОМЫШЛЕННОСТИ СТРОЙМАТЕРИАЛОВ Г. МИНСК** | ***На базе 9 классов*** 1.Химическая технология производства и переработки неорганических материалов 2.Машины и аппараты химических производств и предприятий строительных материалов 3. Автоматизация технологических процессов и производства |
| **ОРШАНСКИЙ ТЕХНИКУМ ЖЕЛЕЗНОДОРОЖНОГО ТРАНСПОРТА** | ***На основе общего среднего образования*** 1. Организация перевозок и управление на железнодорожном транспорте |
| **ГОМЕЛЬСКИЙ ТЕХНИКУМ ЖЕЛЕЗНОДОРОЖНОГО ТРАНСПОРТА** | ***На основе базового образования*** 1. Техническая эксплуатация и ремонт транспортных средств 2. Организация перевозок и управление на транспорте |
| **МОГИЛЕВСКИЙ ПОЛИТЕХНИЧЕСКИЙ ТЕХНИКУМ** | ***На основе базового образования*** 1. Техническое обслуживание технологического оборудования и средств робототехники в автоматизированном производстве ***На основе общего среднего образования*** 1. Оборудование и технология сварочного производства |
| **СОЛИГОРСКИЙ ГОРНО-ХИМИЧЕСКИЙ ТЕХНИКУМ ИМ. М. ТОРЕЗА** | ***На основе базового образования*** 1. Электроэнергетика 2. Горные машины и оборудование 3. Разработка полезных ископаемых |
| **МОГИЛЕВСКИЙ ХИМИКО-ТЕХНОЛОГИЧЕСКИЙ ТЕХНИКУМ** | ***На основе базового образования*** 1. Автоматизация технологических процессов и производства 2. Электроэнергетика |
| **ПО НАПРАВЛЕНИЮ** | |
| **ПТУ-98 Г. МОГИЛЕВ** | ***На основе базового образования*** 1. Слесарь КИПиА: слесарь-ремонтник 2. Электромонтер по ремонту и обслуживанию электрооборудования ***На основе общего среднего образования*** 1. Электромонтер по ремонту и обслуживанию электрооборудования |
| **ПТУ-4 "ЭЛЕКТРОТЕХНИКИ" Г. МОГИЛЕВ** | ***На основе базового образования*** 1. Электромонтер по обслуживанию и ремонту электрооборудования, аппаратуры радио и связи 2. Электромонтер по обслуживанию и ремонту электрооборудования (водитель автомобиля) ***На основе общего среднего образования*** Электромонтер по обслуживанию и ремонту электрооборудования, аппаратуры радио и связи. |
| **ПТУ-33 Г. МОГИЛЕВ** | ***На основе базового образования*** Кузнец на молотах и прессах; кузнец-штамповщик; электросварщик ручной сварки ***На основе общего среднего образования*** Станочник широкого профиля (токарь, фрезеровщик, шлифовщик) |

*За дополнительной информацией обращаться в отдел подготовки кадров Белорусского цементного завода (тел. 22-9-93).*

**АДМИНИСТРАЦИЯ.**

## Выставки

# Картины Международных пленэров – в Костюковичах

В Могилевской области заложена добрая традиция – посредством значимых культурных акций расширять добрососедские связи и контакты на пользу государства Беларуси и России и их народов. Одним из праздников искусства и стало проведение Международных пленэров по живописи на Могилевской земле.

Первый Международный пленэр по живописи имени В. К. Бельницкого-Бирули проходил с 14 мая по 9 июня 1996 года. В его работе приняли участие 22 художника из Беларуси, России, Украины, Литвы, Польши, Сербии, Франции.

В связи с 125-летием рождения народного художника БССР, народного художника РСФСР В. К. Бельницкого-Бирули 1997 год был объявлен годом памяти великого мастера. В рамках юбилейного года проводился второй Международный пленэр по живописи с 25 августа по 21 сентября 1997 года. Художники из разных стран трудились на Могилевщине и Тверской губернии на академической даче им. И. Е. Репина. Доказательством успешной работы на пленэре явилось огромное количество этюдов с натуры, воспевающих места, связанные с жизнью и творчеством Витольда Каэтановича. Различную манеру исполнения, темперамент, изобразительные средства и палитру красок художники подчинили единой идее – представить увиденное в реалистических традициях, привлечь внимание широкой общественности к богатому творческому наследию В. К. Бельницкого-Бирули.

В Костюковичском краеведческом музее открылась выставка картин второго Международного пленэра. На ней представлено 16 картин известных художников. Среди них картины Шпартова, Давыдова, Барановского, которые отмечены компетентным жюри пленэра.

Жители города, района, гости могут ознакомиться с выставкой, которая будет работать два месяца.

**Светлана КАМЫШЕВА,**
**и.о. директора**
**краеведческого музея.**

**ПРОДАЮ**

дом по улице Минская, 22 или меняю на квартиру в г. Могилеве. Тел.: 2-15-36, в любое время.

**Х Х Х**

гараж блочный с мансардой 9х4, есть сарай, запчасти к машине ЗАЗ-968 "М". Тел. : 22-5-44.

## СПОРТ

# ПАСПЯХОВЫ ДЭБЮТ

У г. Маладзечна на вучэбна-спартыўнай базе "Вілія" прайшла рэспубліканская спартакіяда раёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Упершыню ў спаборніцтвах такога рангу прынялі ўдзел спартсмены Касцюковіцкай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы. Дэбют аказаўся паспяховым. Не было роўных выхаванцам старшага трэнера па валейболу Аляксандра Аляксеенкі. Лена Курылава, Аксана Казлова, Вольга Малашанка, Таня Хаўронава, Юля Растаргуева, Света Іванова, Таня Маёрава і Алеся Федасенка пераканаўча перайгралі сваіх саперніц і сталі чэмпіёнкамі спартакіяды.

Лепшым іграком спаборніцтваў па валейболу, па рашэнню судзейскай калегіі, прызнана Алеся Федасенка. Усе чэмпіёнкі ўзнагароджаны дыпломамі і прызамі.

Не менш паспяховым было выступленне і нашых юных футбалістаў. На сваю апошнюю гульню яны выходзілі ўжо ў рангу чэмпіёнаў. І зноў лепшымі ігракамі спартакіяды названы касцюкаўчане Павел Кухараў і Дзіма Зюсько. За каманду пераможцаў таксама выступалі Раман Елісеенка, Жэня Лобачаў, Ігар Лобачаў, Саша Шаўцоў, Толя Чубанаў, Саша Даніленка, Сяргей Юзефальчык. Пераможцы ўзнагароджаны дыпломамі і прызамі. Рыхтаваў каманду трэнер Віталь Шафранаў. Прадстаўляў каманду-пераможцу рэспубліканскай спартакіяды ст. трэнер па футболу Васіль Шкаруба.

Каманды ўзнагароджаны кубкамі Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь.

# СТУПЕНЬКІ П'ЕДЭСТАЛАЎ

Парадавала сваім выступленнем на рэспубліканскіх юнацкіх гульнях у г. Мінску вахаванка ст. трэнера па дзюдо Аляксандра Герашчанкі Марына Галяс. Маладая спартсменка, кандыдат у майстры спорту ўзнялася на вышэйшую ступеньку п'едэстала.

На рэспубліканскім турніры "Алімпійскія надзеі" ў г. Мінску дайшла да фіналу і заняла другое месца Насця Пашкевіч, на трэцім месцы – Ніна Прыходзька.

У барацьбе за Кубак Беларусі па дзюдо Люда Сёмкіна заняла другое месца.

Паспяхова выступілі на першынстве вобласці і самыя юныя спартсменкі. Наташа Лаўрыненка, Таня Андрушына, Юля Рабека занялі другія месцы, Аксана Славінец — трэцяе прызавое месца.

# ДАЛЕЙ І ХУТЧЭЙ

На абласных юнацкіх гульнях па лёгкай атлетыцы пераможцам у кіданні кап'я стаў Андрэй Жугароў. Паспяхова ў гэтай спартыўнай дысцыпліне выступіў Андрэй Палякоў, якія заняў трэцяе месца. Далей усіх штурхнуў ядро, заняўшы першае месца, Аляксандр Фірсаў. Сярод кідальніц кап'я другое месца заняла Надзя Кашко.

У бегу на 200 метраў трэцяе месца заняла Марына Варашкевіч. Андрэй Жугароў і Аляксандр Фірсаў увайшлі ў склад зборнай вобласці па лёгкай атлетыцы. Рыхтавала і прадстаўляла нашу каманду ст. трэнер Святлана Якаўчык, у падрыхтоўцы Аляксандра Фірсава ўдзельнічаў настаўнік Машаўской СШ Аляксандр Горкі.

**Генадзь КЛЕЙМАН,**
**завуч дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы.**

**Раённы выканаўчы камітэт глыбока смуткуе з выпадку смерці**
**ФЯДОРЧАНКІ**
**Уладзіміра Ігнатавіча**
**і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Раённы выканаўчы камітэт глыбокае смуткуе з выпадку дачаснай смерці галоўнага агранома калгаса "Праўда"**
**ЕМЯЛЬЯНЕНКІ**
**Мікалая Андрэевіча**
**і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Сем'і Фраловых, Усавых, Гутнік глыбока смуткуюць з выпадку дачаснай смерці**
**ЕМЯЛЬЯНЕНКІ**
**Мікалая Андрэевіча**
**і выказваюць глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Калектыў раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму эканамісту ФЯДОРЧАНКА Галіне Уладзіміраўне з выпадку смерці БАЦЬКІ.**

**Калектыў горнага цэха Беларускага цэментнага завода глыбока смуткуе з выпадку дачаснай смерці**
**ЯРОМІНА**
**Пятра Віктаравіча**
**і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім памёршага.**

**Калектыў раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання глыбока смуткуе з выпадку дачаснай смерці галоўнага агранома калгаса "Праўда"**
**ЕМЯЛЬЯНЕНКІ**
**Мікалая Андрэевіча**
**і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**


**Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43
Індэкс газеты 64045

ТЭЛЕФОНЫ: галоўны рэдактар -- 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар -- 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі -- 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя --2-23-55.

Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.
**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш
Тыраж 1661 экземпляр
Друк афсетны
Падпісана ў друк 30. 05. 2000 г. 18.00
Заказ № 41





**Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.**